Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 10. Вільня, Нядзеля, 21 Сакавіка 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Стаўка на кайзэра, Пілсудскага, Леніна.

**З прычыны 8-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі (25.III.1918. — 25.III.1926.).**

Беларускі рух у сваім жыцьці, асабліва на пачатку, быў вельмі слабы. Беларускія дзеячы былі параскіданы па ўсёй Расеі, зарабляючы на кавалак хлеба, або адседжваючы кару па расейскіх турмах (Я. Колас), а нават у Сібіры (Лёсік, Прушынскі).

Рэвалюцыя пачала гуртаваць беларускія сілы і Менск зьяўляецца цэнтрам тагочаснага руху; сюды склікаюцца вайсковыя і сялянскія зьезды, тут арганізуецца Беларуская Вайсковая Рада, тут урэшце зьбіраецца вялікі Беларускі Кангрэс, каторы, як ведама, быў разагнаны бальшавікамі ў ночы з 17 на 18 сьнежня ст. стылю 1917 году пры помачы кулямётаў і бранявікоў...

Трэба сказаць, увесь гэты час ад пачатку рэвалюцыі аж да разгону беларускага кангрэсу—трэба залічыць да найсьвятлейшых дзён беларускага руху. Тагды ўсе беларускія дзеячы арыентаваліся *самі на сябе*, або інакш кажучы на сілы самога Беларускага Народу.

Цяпер углядаючыся ў прошласьць, трэба прызнаца, што той разгон зьезду закончыў першую фазу і даў пачатак другой фазе беларускага руху, фазе арыентацыяў на чужыя сілы... бо свае былі за слабыя.

Беларускі рух, спаткаўшы на сваей дарозе такую сярдзітую перашкоду, як камуністычная партыя, пачаў шукаць хаўрусьнікаў. Усякі вораг бальшавікоў лічыўся тады хаўрусьнікам беларускага руху.

Пад той час у Менск прыходзяць немцы. Беларусы спаткалі іх з радасьцяй, думаючы, што яны на сваіх штыках прынясьлі беларусам свабоду. Праўда, немцы ня ўмешваліся ў беларускае жыцьцё, дазволілі зьбірацца Радзе Беларускай Рэспублікі і не пратэставалі нават тагды, калі Рада аб'явіла Беларусь Незалежнай (25.III. 1918 г.). Залажылі свой пратэст толькі тады, калі Радай было даручана Скірмунту фармаваць беларускі кабінэт міністраў. Тагды „гэнэраль-комманандо" ў Менску прыслала Скірмунту паперу, у каторай было напісана, што „хай Скірмунт не забывае, што адзінай уладай у краі ёсьць нямецкая ўлада і што немцы другой улады ня сьцерпяць..." Словы гэтыя былі моцныя. Што-ж асталося рабіць? Скірмунт падаў выхад: паслаць тэлеграму да самага кайзэра... Тэлеграма была паслана. Як ведама, беларусы на гэту тэлеграму не атрымалі нават адказу, хоць у ёй гаварылася, што Беларусь у лучнасьці з Нямеччынай будзе шчасьліваю і відзіць для сябе сьветлую будучыну...

Такім парадкам арыентацыя на кайзэра трэснула.

Але падзеі разьвіваюцца. Коаліцыя пабіла немцаў і прымусіла да міру. Немцы пакідаюць Украіну і Беларусь. За немцамі наступаюць ізноў тыя самыя чырвоныя войскі з камісарамі Мясьніковым і Крывашэіным, каторыя разагналі беларускі кангрэс. Куды пахіліцца?

У той самы час насупроць бальшавікоў ідзе „сацыяліст" і „баяўнік" за „нашую і вашую свабоду"—Пілсудскі. Вочы ўсіх беларусаў былі зьвернены на яго. Радасьці і надзеяў канца ня было, асабліва тагды, калі Пілсудскі прыехаў у Менск і быў у тэатры на беларускім канцэрце. Расказвалі, што ўся саля тэатру аж гудзела, калі Пілсудскі прыймаў кветкі ад беларускай дзяўчынкі... Дэлегацыя розных беларускіх партыяў, пачынаючы ад Хрысьціянскай Злучнасьці, а канчаючы на беларускіх эсдэках і эсэрах, прасіла памагчы адабраць ад бальшавікоў усю Беларусь...

Аднак падзеі пайшлі іншаю дарогай. Няўдачны паход Пілсудскага на Кіеў прымусіў яго адступіць пад націскам чырвоных войск з Беларусі. Пачынаюцца пажары і зьдзекі польскай дэфэнзывы. Генэрал Шэптыцкі, калі яму ўспомнілі аб гэтым, адказаў, што ён спаліць усю Беларусь, калі трэба будзе... Гэта быў пачатак банкруцтва арыентацыі на Пілсудскага. Дакончыла потым паліцыя і польская адміністрацыя...

Куды цяпер? Беларусы пачалі шукаць трэцяй сілы і — надспадзяваньне знайшлі яе ў бальшавікоў. Камуністычная партыя пад камандай Леніна зразумела, што беларусы маюць ужо сякую-такую сілу, каторую трэба выкарыстаць для ўнутранага спакою і дзеля прапаганды заграніцай... Дык пачалі шукаць прыхільнікаў—і знайшлі. Гэта былі: Жылуновіч і Чэрвякоў. Каля іх згуртаваліся астаткі Беларускай Сацыялістычнай Грамады і пачалася работа... або лепш кажучы—*гульня* пад кіраўніцтвам камуністаў у незалежную Беларусь.

На пачатак камуністы даюць шэсьць паветаў Меншчыны і пазваляюць на сякую-такую прасьветную работу. Але гэтага было мала. Тыя шэсьць паветаў былі іроніяй з беларускай „незалежнасьці". У краі і на эміграцыі проста сьмяяліся з бальшавіцкага падарку...

Трэба было паступіцца і вот камуністы прылучаюць да Беларусі Магілёўшчыну і Віцебшчыну. Праўда, тут бальшавікі „расшчадрыліся" і гэтым захапілі ўсіх беларускіх дзеячоў, нават сваіх ворагаў. Усе пачалі пільна сачыць за ўсімі праявамі беларускага жыцьця ў Савецкай Беларусі.

Але час ішоў. Бліжэйшыя досьледы паказалі, што справа з Савецкай Беларусьсю стаіць ня надта добра. З тых вестак, каторыя даходзяць праз тамашнія газэты, або праз людзей, каторыя там былі — беларускія дзеячы праканаліся:

1) Што там няма ніякай незалежнасьці, але ўсё ёсьць залежнае ад маскоўскага цэнтру.

2) Што маскоўшчына сваіх там уплываў ня зьменшыла, бо наехала шмат „партыйных" і „культурных" працаўнікоў, якія ня знаюць пабеларуску ні воднага слаўца, а карыстаюцца толькі расейскай мовай.

3) Што беларусы ў камуністычнай партыі Беларусі ёсьць у меншасьці (3,5%), а большасьць зьяўляюцца жыды, палякі і расейцы, што на адказных становішчах у Беларусі знаходзяцца данскія казакі і польскія камуністы.

4) Што найлепшая зямля пры мястэчках і гарадах раздаецца не сялянам-беларусам, а жыдом і што беларусаў з Калінiншчыны (Магілёўшчыны) і з другіх акругоў пасылаюць аж у Сібір, а жыдоў надзяляюць у гэтых самых акругох зямлёй. Гэтакае высыланьне адвечных жыхараў са сваей Бацькаўшчыны ў Сібір ня можа не адвярнуць сэрца кожнага шчырага беларуса ад савецкай палітыкі. Бо ўсякаму прыходзіць думка: чаму жыдоў ня шлюць у Сібір, але нашага беднага беларуса з яго роднай зямелькі?

Вось што дала беларусам астатняя арыентацыя на Леніна. Калі першая стаўка на кайзэра нічога беларусам не дала, але нічога і не адабрала, калі другая стаўка—на Пілсудскага—была нерэальнай, бо той і ня думаў зрываць з польскай панска-буржуазнай палітыкай і даць нешта беларусам, то трэцяя стаўка на камунізм—яна найгоршая, бо найбольш небясьпечная. Мы не агледзімся, як Усходняя Беларусь станецца Маскоўшчынай, ад якой яна залежыць.

Пры ўсім гэтым можа хто спытае, а што робяць нашы менскія беларусы? Хоць гэта прыкра, але трэба адказаць ясна і цьвёрда: сядзяць як мышы пад мятлой, баючыся, каб чым ня ўгнявіць маскоўскага цэнтру. У гэтым нашых менскіх беларусаў можна прыраўняць да віленскіх Паўлюкевічаў, якія стараюцца згадаць думкі сваіх варшаўскіх валадараў.

Вось будуць вынікі нашых беларускіх арыентацыяў. Прагледзіўшы іх з пачатку да канца, мы прыходзім да праканаmake, што найгоршым злом для Беларусі, гэта будзе арыентацыя на чужынца, каторы нас хоча праглынуць. *Найгідчэйшая ўгода будзе тады, калі годзішся з тым, хто цябе душыць.*

Затым хаўрусьнікамі нашымі могуць быць толькі тыя нашы суседзі, якія ня душаць і не зьбіраюцца зглядзіць нас са сьвету, як літвіны і ўкраінцы.

Дык глянуўшы на тую падарожу, якую адбыў беларускі рух, мы прыходзім да праканаНЬНЯ, што вялікая праўда ўжо нам стаць на свае ногі і пачаць арыентавацца ізноў самі на сябе. Калі будзем мець сілу, то будзем мець і хаўрусьнікаў. А сіл ужо дзякаваць Богу ў нас ёсьць—яны бурляць усюды, па ўсёй зямлі беларускай.

Стаўшы на свае ногі і адкінуўшы паднявольныя і губячыя нас арыентацыі, мы будзем ісьці далей тэй дарогай, якою ішоў народ у 1917 годзе—дарогай арыентацыі на самых сябе, або інакш кажучы—на *сілы Беларускага Народу*. І толькі гэткай дарогай, пакінуўшы службу ў усіх нашых багатых і дужых дзядзькоў, мы ўвойдзем у хаўрус і сям'ю незалежных і вольных народаў...

Дык па стаўцы на кайзэра, Пілсудскага і Леніна павінна прыйсьці апошняя стаўка: *на самых сябе*!

**Горскі.**

# НЁМАНУ.

Нёман, Нёман! Родны Бацька,
Нёман Крывічоў рака,
Ты ня бачыш зьдзек-прымусаў
Беларуса бедака!

Людзі стогнуць ад пакуты,
Людзі мучацца душой,
Людзі гінуць у нядолі,
Даруй, Божа, ім спакой!

А ты, Нёман, сівы Бацька,
Мо' асьлеп ты ці аглох!
Учора—Хвойкі йшлі плытамі,
Сёньня—Стогн па берагох!

Нёман, Нёман! Схамяніся,
Скінь ярмо ты бедакоў, —
Разьлі веру у свабоду
Між сваіх сьвятых палёў.

**Ж. Нараміч.**

---

піталістых і розных сындыкатаў пераходзіла ў рукі ўсяго народу праз коопэрацыю.

§ 39. Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца адпаведных крэдытаў для вытворчых, крэдытовых і спажывецкіх коопэратываў.

**XVI. Адбудова краю.**

§ 40. Усе зьнішчаныя вайной гаспадаркі павінны быць неадкладна адбудаваны на кошт дзяржавы; дзяржава павінна прысьці на помач лесам і іншымі будаўлянымі матэр'яламі і грашмі.

**XVII. Работніцкае пытаньне.**

§ 41. Беларускі Сялянскі Саюз стаіць проціў вызыску капіталістымі работніцкае клясы, дамагаецца працы для ўсіх работнікаў і рашучай барацьбы з безработцьцем.

§ 42. Беларускі Сялянскі Саюз стаіць за ўтрыманьне ўсіх сацыяльных здабычаў работніцкае клясы, а іменна: 8-мі гадзіннага рабочага дня, абароны працы кабет і дзяцей, страхаваньня ад нешчасьлівых выпадкаў, старасьці, утраты здароўя, безработцьця і іншых.

§ 43. У барацьбе за свае паасобныя ідэалы, як сяляне, так і работнікі павінныісьці разам і старацца адны адных падтрымліваць.

(Канец).

---

# З працы Беларускага Пасольскага Клюбу у Сойме.

У працягу 10 пленарных паседжаньняў Сойму, якія адбыліся ў 1926 годзе ад 15.І. да 3.ІІІ. г. г., апрача выступленьняў паслоў з Беларускага Пасольскага Клюбу на пленуме Сойму, якіх прамовы былі падаваны ў беларускай прэсе, Беларускі Пасольскі Клюб падаў вось якія інтэрпэляцыі:

№ 300. 15.І.1926. У справе заарыштаваньня 10 асоб з вёскі Рашова, Малчадскай вол., Слонімскага павету.

№ 301. 27.І.1926. (Інт. сэнатараў). У справе закрыцьця Падароскай праваслаўнай парафіі, Ваўкавыскага павету і перадачы Падароскай царквы р.-каталіцкаму вызнаньню.

№ 302. 3.ІІ.1926. У справе надужыцьця ўлады Павятовым Аддзелам Навагрудзкага Сойміку.

№ 303. 9.ІІ.1926. У справе нявыконываньня войтам Нова-Дворскай вол., Сакольскага павету, сваіх абавязкаў адносна беларусаў.

№ 304. 9.ІІ.1926. У справе выплаты работнікам належных ім за работу сум.

№ 305. 9.ІІ.1926. У справе нялюдзкага катаваньня паліцыяй сялян вёскі Чэпялі, Сухапольскай вол., Бельскага пав.

№ 306. 25.ІІ.1926. У справе падкінутых паліцыяй вінтовачных патронаў і заарыштаваньня Мірона Саўчука з вёскі Чэпялі, Сухапольскай валасьці, Бельскага павету.

№ 307. 25.ІІ.1926. У справе арыштаваньня Андрэя Брытуна і Філіпа Пекача з вёскі Рубэчка, Сухапольскай вол, Бельскага пав.

№ 308. 2.ІІІ.1926. У справе спыненьня распараджэньня Стаўпэцкага Старасты што да пропускоў на доступ да прыгранічных грунтаў.

16.ІІІ.1926. Сэкрэтарыят Бел. Пас. Клюбу.

---

# Як здабыць савецкае грамадзянства? (обыватэльство).

Польскі грамадзянін, які жадае перайсьці ў грамадзянства С.С.С.Р., павінен атрымаць на гэта дазвол ад польскіх уладаў (ад Староства свайго павету). Дазвол гэты трэба заверыць у Варшаве ў Міністэрстве Унутраных і Чужаземных Спраў. Калі грамадзянін з сям'ёй, то ўся яго сям'я, пераходзячая з ім у савецкае грамадзянства, павінна быць запісана ў сказаным вышэй дакумэнце, або мець асобныя дазволы. Адначасна з гэтым трэба прылучыць і здаць у савецкае консульства ў Варшаве (Новосэнаторская 1) такія дакуманты:

1) Адну копію ўспомненага дазволу ў польскай мове і адну ў расейскім, або ўкраінскім перакладзе.

2) Заяву на імя Саюзу Ц. И. К. аб прыняцьці ў грамадзянства С. С. С. Р. з паказаньнем імя, імя бацькі, прозьвішча, веку, або году нарадзін, адрэсу і апісаньня жыцьця, прычым муж, жонка і ўсе сябры сям'і, каторым мінула 18 гадоў, павінны падаваць заявы кожны асобна, асобы маладзей 18 гадоў упісуюцца ў заяву маці, калі-ж такой няма, то ў заяву бацькі, або асобы бацькоў замяняючай, з паказаньнем яе імя, імя бацькі, прозьвішча і веку.

3) Па 4 фатаграфічныя картачкі с кожнай асобы, не малодшай 10 гадоў, прычым асобы маладзей 16 гадоў, могуць быць зьняты на аднэй картачцы з тэй асобай, у заяве каторай яны ўпісаны.

4) Усе дакумэнты, каторыя могуць так ці інакш пацьвярджаць аўтобіаграфію (апісаньне жыцьця) прасіцяляў.

5) На кожную асобу падаючую заяву па 4 запоўненыя анкеты (пытальныя лісты), блянкі якіх можна атрымаць у консульстве С. С. С. Р. па 5 кап. золатам за кожную.

Пры падачы заявы павінна быць прыложана патрэбная сума консульскіх аплат, г. зн.:

1) Пры кожнай заяве на 4 р. 40 к. золатам.

2) За кожнае засьведчаньне перакладу на расейскую, або ўкраінскую мову дазволу на пераход у грамадзянства С. С. С. Р., — 5 р. 50 к. зол.

Грошы ўносяцца польскімі злотымі па курсу дня, лічачы амэрыканскі даляр за 2 рублі.

Быўшыя расейскія, або ўкраінскія грамадзяне, утраціўшыя расейскае, або ўкраінскае грамадзянства і пражываючыя па польскіх дакумэнтах, але грамадзянства не атрымаўшыя, павінны пры ўступленьні ў грамадзянства С. С. С. Р. прадстаўляць тое самое, што і польскія грамадзяне, але дазволу ад польскіх уладаў на пераход у савец. грамадз. ня трэба і ў консульстве С.С.С.Р. прылучаць толькі той польскі дакумант (карта побыту і г. д.), па якім грамадзянін жыве ў Польшчы, як расейскі, або ўкраінскі грамадзянін, з устаноўленымі двумя копіямі з яго, згодна з пунктам 1.

На ўступленьне і пераход у грамадзянства С. С. С. Р. патрэбна прыблізна каля 3-х месяцаў.

---

# З Заграніцы.

## Выбары ў Сойм.

Дэкрэтам прэзыдэнта Літоўскай Рэспублікі срок выбараў у новы літоўскі Сойм вызначаны на дзень 8 і 9 мая г. г.

## Аблягчэньне ўезду ў Літву.

Літоўскае міністэрства ўнутраных спраў апрацавала на лета праект аблягчэньня ўезду ў Літву для грамадзян усіх гаспадарстваў за выняткам Польшчы.

## Бэльгія памяншае сваю армію і срок службы ў войску.

Бэльгійскі парлямант распусьціў 37 палкоў, апрача таго пастанавіў, што вайсковая служба ў Бэльгіі мае трываць 10 месяцаў. Проці гэтага пратэставалі быўшыя ваякі ды афіцэры, аднак паступовая большасьць парлямэнту прыняла ўхвалу.

## Вайна ідзець далей.

Друзы вядуць вайну з французамі далей. У апошніх днях прадставілі Друзы французскай камандзе ўмовы міру. Жадаюць яны поўнай незалежнасьці. Французы адкінулі прапазыцыі Друзаў і вайна вядзецца далей.

---

# ХРОНІКА.

— **Набажэнства з прычыны 8-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.** У чацьвер 25 сакавіка 1926 г. а 10 гадз. раніцы, з прычыны 8-ых угодкаў абвешчаньня незалежласьці Беларусі, у касьцеле сьв. Мікалая ў Вільні адбудзецца ўрачыстае набажэнства.

— **Перамена адрэсу нашай газэты.** Падаецца да ведама ўсіх зацікаўленых, што Рэдакцыя і Адміністрацыя „Сялянскай Нівы" з сяньняшнім днём пераносіцца на **Полацкую вуліцу № 4 кв. 7.** Усіх падпісчыкаў просім зьвяртацца па гэтым адрэсе. Пры гэтым зазначаем, што так-жа прымаецца на нашу газэту падпіска ў Беларускіх Кнігарнях: Завальная вуліца № 7 і ў кнігарні Ст. Станкевіча—Вострабрамская вуліца № 2.

— **Абраза праз недагляд.** У № 9 „Салянскай Нівы" (14.ІІІ.1926.) у ўвазе аб справаздачы пасла Мятлы з яго паездкі ў Расею, праз недагляд дапушчаны аж тры разы абразьлівыя словы: „апуканства". Вось-жа, астаючыся пры самым зьмесьце ўспомненай увагі, гэныя абразьлівыя словы бяром назад і перапрашаем за іх п. Мятлу.

— **Лекцыя ў Беларускай Гімназіі.** У нядзелю 7-га сакавіка ў залі Белар. Гімназіі п. Трэпка прачытаў лекцыю на тэму „Машына ў жыцьці чалавека". Публікі на гэты раз ня было вельмі шмат; мусіць за тым, што замала было абвешчана. Лекцыя ладзілася беларускімі студэнтамі, каторыя, трэба прызнаць, за апошнія часы выказалі нязвычайную рухлівасьць у гэтым кірунку. Будзем спадзявацца, што і адным сялетнім спэктаклям нашы студэнты ня будуць абмежывацца.

— **Суд над грам. Канчэўскім і вучн. Салагубам.** 9.ІІІ.1926. у апэляцыйным судзе разглядалася справа гр. Канчэўскага і вучня Салагуба, абвінавачваных у камунізьме.

Гр. Канчэўскаму суд кары не паменшыў, пакінуўшы прысуджаныя акружным судом 4 гады катаргі і не залічыўшы часу, што сядзеў да суда; вучню Салагубу зьнялі 1 год, залічыўшы папярэдні вастрожны час—3 месяцы, так што засталося яму адсядзець яшчэ дзевяць месяцаў.

— **Падзел пасеўнай дапамогі.** Ваяводзкія ўлады правялі нядаўна падзел вызначаных Віленшчыне праз міністэрства 400 тысяч зл. як пасеўную дапамогу.

Віленска-Троцкі павет атрымае з гэтай сумы больш 50 тыс. зл., Браслаўскі—95 тыс., Дзісенскі—40 тыс., Пастаўскі—35 тыс., Сьвянцянскі—50 т., Ашмянскі—20 тыс., Вялейскі і Маладэчанскі атрымаюць разам—70 тыс. зл.

Выдаваньнем гэтых крэдытаў для сялан у паветах займуцца паветавыя камітэты пасеўнай дапамогі. Беларусы павінны руціцца, каб гэтыя дапамогі ня мінулі іх.

— **Савецкая дэлегацыя ў Вільні.** Нядаўна была ў Вільні савецкая чыгуначная дэлегацыя ў справе руху на чыгунках паміж Савецкай Беларусяй і Віленшчынай. Гаварылася аб 2-х лініях, з якіх адна вядзе з Вільні на Пецярбург праз Загаце—Фарынова, а другая з Вільні на Гомель праз Мікашэвічы — Жытковічы. 9-га сакавіка ў гэтай справе падпісана ўмова з савецкай дэлегацыяй.

Адкрыцьце гэтых шляхаў адбудзецца ў працягу 2-х найбліжэйшых месяцаў. Лінія Вільня—Радашкавічы—Менск будзе абгаварывацца на наступнай конфэрэнцыі.

— **Вечар славянскай песьні.** У суботу 12.ІІІ. у залі Купецкага Клюбу адбыўся канцэрт, на які злажыліся песьні беларускія, украінскія, польскія і расейскія. Выступаў хор і паасобныя салісты. Ня гледзячы на тое, што вечар ладзілі расейцы і публіка пераважала расейская, найбольш падабаліся песьні беларускія. Загадчыку п. Матвійцу прышлося з недахвату ў сваім рэпэртуары паўтараць на біс тую самую беларускую песьню. Як хор, так і салісты зусім добра выказаліся з боку мастацкага. Шкода толькі, што сабраўшаяся няпольская публіка не магла ніяк дагадацца, што мелі на думцы арганізатары канцэрту, калі так-жа няпольскаму хору загадалі пяяць „Polski my naród, polski lud, nie damy pogrześć mowy!"

Што гэта, недаразуменьне ці іронія?

— **Афіцыяльны курс грошаў на 17.ІІІ.** Даляр—8 зл. 00 гр. Залаты рубель—4 зл. 10 гр.

---

# „Дай сэрцю волю, заведз в нэволю"

украінскі драматычны твор у 5-ёх дзеях М. Крапіўвіцкага.

Канец 1925 і пачатак 1926 году ёсьць тым, годным увагі часам, калі жыхары места Вільні маглі ўбачыць на сцэне творы вялікага ўкраінскага драматурга — М. Крапіўніцкага. Украінская школьная моладзь, якой доля не дазволіла здабываць вышэйшую эдукацыю ў украінскім Львове, выэміґравала большасьцю ў сталіцы заходняе Эўропы, каб там здабыць веду. У пагоні за навукай група ўкраінскіх школьнікаў апынулася ў Вільні і тут між намі прыходзіцца ім, выгнаным з сваіх родных кутоў, перамагаць найвялікшыя перашкоды, якімі абдарае іх нядоля. Тут яны жывуць і вучацца. У вольнай ад навукі часіне дужа рупныя школьнікі пасьвячаюцца прыгатаваньню п'есаў, якімі час ад часу дараць віленцаў.

У канцы прошлага году некалькі ўкраінскіх спэктакляў адбылося ў актавай салі Беларускае Гімназіі.

Першым спэктаклям у 1926 г. будзе драматычны твор М. Крапіўніцкага выстаўлены на сцэ-

не Гандлёва-Прамысловага Клюбу 7 сакавіка. Твор гэты носіць загаловак „Дай сэрцю волю, заведэ в нэволю“ і зьмяшчаюцца ў 5-ёх дзеях. У нядзелю 6-га сакавіка зараз-жа па 7-ай гадзіне ў вечар вялізарная саля клюбу пачала напаўняцца публікай. Дзеяньне пачалося а 9-ай гадзіне. Дасканальнай гульнёй вызначаліся артысты, якія гулялі ролі: Марусі, Адаркі, Мыкіты Гальчука, Івана Нэпокрыты і Сэмэна Мэльнічэнкі. Перадусім, зьвярталі на сябе ўвагу Маруся, Мыкіта Гальчук і Іван Нэпокрыты. Першая з другім, як дужа здольныя трагікі, апошні вызначаецца сваей комічнасьцяй. Маруся і Мыкіта пацягівалі вока глядзельнікаў сваей дужа меткай мімікай і гестыкуляцыяй. Іванжа змушаў салю да сьмеху сваей дыкцыяй. Рэшта гуляла ня дрэнна.

Другую часьць праграмы запоўнілі ўкраінскія скокі, выкананыя спэцыялістамі на сцэне. Дужа добра ўдаліся „Запорожэц“, „Казачок“ і „Чумак“.

Трэцюю і апошнюю часьць праграмы складалі песьні выкананыя праз хор славянскае песьні пад кіраўніцтвам грам. Т. Матвійца. Адразу пайшла песьня польскіх нацыяналістаў „Rota“. Другою-ж была беларуская „Рабіна“, якую, нажаль, Матвіец зрэдукаваў да $^1/_5$-ай. Публіка, якую да 50% складалі Беларусы, зразумела гэты грэх грам. Матвійца і дужа зазлавалася. Рэшта песьняў былі ўкраінскія і маскоўскія.

Астаецца падзякаваць толькі ўкраінскай моладзі за дужа мілыя вечарыны і папрасіць, каб у будучыне грам. Матвіец не скарачаў беларускіх песьняў, бо гэтага вымагае, між іншым, і інтэрас украінскае вучнёўскае моладзі. **Фр. Гр.**

# Пісьмы з вёскі.

## Калі скончыцца паліцэйская правакацыя на Палесьсі?

У 1924 г. паліцыя Косаўскага павету арыштавала 10 чалавек, якобы за „камунізм“ і „дывэрсыю“. Пасярод іх быў Мікалай Пераналоцкі сэкрэтар Беларускага Пасольскага Клюбу. Некатарых з іх так пабілі, што засталіся інвалідамі. Пасол Ярэміч інтэрвэняваў у судовых уладаў, каб выпусьцілі хоць пад залог, але сьледчы судзьдзя адказаў: „nie mogę, bo mam bardzo poważny materjał obciążający“ і так прасядзелі ў Горадзенскім вастрозе з вясны 1924 г. да 15 сьнежня 1925 году. На распраўе 15./XII. 1925 г. ў Горадзенскім Судзе ўсе былі апраўданы; вялікая частка з іх хворыя, дзякуючы кепскім варункам жыцьця ў вастрозе і пабоям.

Вярнуўшыся да сваіх родных хат, ня доўга набыліся ў родных хатах, бо паліцыя Косаўскага павету ня спала, а ўвесь час думала, якім-бы спосабам зрабіць якую колечы новую правакацыю; думала, дый дадумалася, што ў 1922 годзе быў напад на Тэлеханы, ну, дык давай прычэпім усіх да гэнай справы. Так і зрабілі. Арыштавалі Мікалая Пераналоцкага, Ціхана Кулініча, Пятра Лушыка, Паўла Труська, Трахіма Кматка, Міхася Калтуна, Мікаля Дзямідовіча і Мікалая Кулініча, скавалі ў кайданы дый павезьлі да Тэлехан, білі ўсіх арыштаваных, каб прызналіся да віны. Калі арыштаваныя ня прызнаваліся, то давай біць аднаго жыда, ў якога былі зрабаваныя рэчы, каб той сказаў, што гэтыя самыя людзі былі падчас нападу на Тэлеханы, але не дабіўшыся нічога ад крамара, пайшлі да пані надлясьнічай, каб тая апазнала, а надлясьнічая і кажа: „zdaje się, że ci sami“. Тады ўсіх арыштаваных і скаваных павязьлі ў вастрог у Пружаны. Ну, скажыце ж добрыя людцы, ці магчыма жыцьцё ў нас у Косаўскім пав.? Зьвяртаемся да сваіх паслоў у Сойме, каб яны зьвярнулі ўвагу на такую, ўжо надта грубую правакацыю. Урад царскі рабіў правакацыі, але трошкі разумней; косаўская паліцыя робіць гэта за надта груба.

**Косавец.**

## Вось войт любіць сала.

Вёска **Вялікае Сяло**, Пружанскага пав.

У нашай Котранскай гміне ёсьць войт, які ўжо чатыры гады мучыць нашых сялян. Ведама, пасьля вайны людзі яшчэ дасюль ня могуць стаць як сьлед на ногі і з трудом, а то і сусім ня могуць аплаціць падаткі. Войт-жа наш вялікі мастак сабіраць падаткі. Як прыедзе ён з сэквэстратарам, то пазабірае ўсе гаспадарскія астаткі і да таго яшчэ прыдумалі, што за ўваход у хату, апрача другіх „працэнтаў“ браць 1 злот. Увайшоўшы ў хату найбольш шукае сала, а пасьля ўжо кажухі ды іншыя рэчы. Гэтак у нашай вёсцы пазабіралі амаль ня ўсё чыста.

Мы ўжо падавалі на яго жалабы туды і сюды, але яго нічога не бярэ, напроціў, ён яшчэ больш стараецца душыць нашых сялян. З сялянамі дык ён ня хоча гаварыць, а як спаткаецца з панам, дык скача перад ім на задніх лапках. Няўжо-ж гэта ўсюды так, ці мо' толькі ў нас?

**Нейкі Беларус.**

## Адказ селяніна польскаму ўрадоўцу.

**Клюшчаны**, Сьвянцянскага пав.

Прышлося мне нядаўна чуць на свае ўласныя вушы, як адзін урадовец правіў аб нас беларусах.

Вось вышаўшы той урадовец да грамады беларускай люднасьці, як пашырыцель „polskości“ на землях Беларусі, зачынае правіць „o czem każdy Polak wiedzieć powinien“. Які, знача, пераважна промысел у Польшчы, які выдатак на што і каму, што найбольшы выдатак ідзець на войска і паліцыю і што з гэтага край наш, пакуль-што і бедны, аднак дзеля спакою, войска і паліцыі зьмяншаць ня можна. Зацікавіўся і я; захацелася паглядзець на сваіх сялян і прыслухацца іхнай гутарцы. Няўжо-ж, думаю сабе, узгадаваныя ў такой цемнаце нашы сяляне дадуць адказ?.. Ажно падходзіць адзін мужчына сярэдняга росту і так пачаў казаць: „Ведаеце паночку,—кажа калі Польшча ня зьверніць увагі на сялян, калі не паправіць жыцьця, а будзе зварачваць увагу большую на войска і паліцыю, гледзячы, як у гісторыі пішуць, што даўней езьдзілі на залатых стрымёнах, а народ у паншчыне мучыўся, — то няведама ці палепшае палажэньне „Рэчыпасналітай“. Няма—бо абароту, ані ў гандлю, ані ў промысьле, а як нас сялян, дык зусім заганяюць. Нашто-ж толькі войска? Нашто-ж толькі паліцыі? Цяпер польскае гаспадарства лічыцца быццам культурнае, няма такіх дзікіх людзей, як у Азіі; даць толькі што належыць і будзе спакойна пры найменшым ліку ўрадоўцаў і паліцыі“.

„Можа—кажа далей той селянін—я і не ўзакон гавору, але мушу высказаць як ёсьць. Даўней бывала ў гміне адзінураднік, а цяпер цэлы плютон паліцыянтаў.

Словам, усіх ня вылічаючы, у 5 разоў больш цяпер, як даўней, а гэта-ж усё нам цяжар. Даўней ураднік служыў, а жонка трудзілася. А цяпер калі паліцыянт жанаты, то трэба яму і жонцы служанку, а не, то і сабачку расовага для пацехі. А калі выйдзе на рынак, то пахнідла за пятнаццаць шагоў чуваць!“

Ах, думаю сабе я, хоць сярмажка суконная але галава разумная; а другія ўсё патаківалі, словам, усіх думкі зьліваліся ў адно. А той там урадоўцу так далей сячэць:

„Словам, ня добра! А краніся толькі з якой патрэбай да ўраду, то 5 дней прастаіш покуль справіш інтэрас“. **Н.**

# Наша Пошта.

**Льяшу** з пад Ляску — верш не падходзіць, пішыце аб жыцьці вёскі.

**С. Ш-ну і Кондэлю** — па магчымасьці пастараемся выкарыстаць.

**Жарскаму і Антановічу** — газэту высылаем акуратна, дамагайцеся на пошце.

**Сьветавастокаву** — з некатарых карэспандэнцыяў скарыстаем, параду праўную незабавам надрукуем.

**Ул. Гмыру** — зьмест Вашага апаведаньня не падходзіць, прабуйце пісаць на іншыя тэмы.

**Групе рабочых** з Гайноўкі — надрукуем.

**Каст. Маеўскаму** — грошы атрымалі, газэту акуратна высылаем.

**М. Русіну** — аб праграме Беларускага Сялянскага Саюзу чытайце ў нашай газэце.

**К. Грымуце** — грошы атрымалі, дамагайцеся газэты на пошце.

**А. Бураку** — друкаваць ня можам. Калі Вы пэўны, што мэтрыка фальшывая—дабівайцеся судом.

**П. Казарэз ў Раманаве** — просьбу спаўняем.

**Плехтану** ў Шкунціках — газэту высылаем.

**Гарадовічу**—грошы атрымалі, просьбу спаўняем.

**Янку Шынкевічу**—грошы атрымалі, просьбу спаўняем. Аб праграме Беларускага Сялянскага Саюзу і запісі ў яго прачытаеце ў нашай газэце. Шчыра дзякуем за прыхільнасьць да нашай газэты і Сялянскага Саюзу.

**Ганчарэвічу Тодару** — газету будзем высылаць, карэспандэнцыя не падходзіць.

**В. Шкодзічу**—з вершаў пастараемся скарыстаць.

**Гр. Дабручыну** — просьбу спаўняем, пішыце пра жыцьцё вёскі.

**Атрымалі:**

Ад: Кучынскага П. — 10 зл.

Ад: Я. Марэйко і Філіпа Іванкевіча — **па 3 зл.**

Ад: С. Быта, Р. Міхалюка, Б. Зайкі, Дм. Кавальчука і Ан. Арцішука — **па 2 зл.**

Ад: Я. Панкевіча, Яв. Галіцкага і С. Буйніцкага — **па 1 зл.**

Усім прыслаўшым грошы газэту высылаем.

*Сяляне! Чытайце і пашырайце сваю газэту „Сялянскую Ніву“!*

*Прысылайце грошы на газэту і адрасы Вашых знаёмых!*



Рэдактар-Выдавец: **Ст. Вольскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.